# БЕЛАРУСКАЯ




МАЙ·1990·№2·НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЭТА·




## Proclamation

*Office of the Mayor of the City of New York*

На працягу мінулага стагодзьдзя Беларусы, якія іміґравалі ў Нью-Ёрк, зрабілі ўклад у энэргію і шматстайнасьць нашага места,

іхняя стойкасьць у абароне справядлівасьці служыць паўсюдна натхненьнем іншым свабодалюбным людзям,

паколькі на дзень 25 сакавіка 1990 году прыпадаюць 72-ія ўгодкі абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі,

і ньюёркаўцы беларускага паходжаньня адзначаюць гэтае сьвята штагоду праграмамі, што падтрымваюць дух свабоднае Беларусі і захаваньне ды пашырэньне багацьця беларускае мовы і традыцыяў,

я, Дэйвід Дынкінс, мэр места Нью-Ёрку, у знак прызнаньня вялікага ўкладу, зробленага Амэрыканцамі беларускага паходжаньня ў шматстайнасьць і энэргію нашага места, абвяшчаю гэтым дзень 25 сакавіка 1990 году

"Днём ушанаваньня беларускае Незалежнасьці"

Дэйвід Н. Дынкінс,
мэр

# ЗЯНОН ПАЗНЯК: ВАШ ЧАС МІНАВАЎ...
## ПРАМОВА НА СЭСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БССР

Паважаныя дэпутаты! Чатыры дні я не выступаў. Я зьдзіўлены да глыбіні душы тым, што ў нас адбылося. Мяне зьдзіўляе, што гэтага не разумеюць. За чатыры дні нашых паседжаньняў мы прыйшлі да палітычнага крызісу ў рэспубліцы і да крызісу ў Вярхоўным Савеце БССР - і мы гэтага ня хочам зразумець.

У якой абстаноўцы засядае наша сэсія? У абстаноўцы, калі бастуе Гомель. Калі такое было, калі забастоўшчыкаў падтрымваюць партыйныя камітэты, саветы працоўных калектываў, дзесяткі тысяч людзей, калі напружаная абстаноўка ў Менску, на магілёўшчыне?! І мы чатыры дні засядаем і "не разумеем", што адбываецца. Мы нават ня ў стане былі зрабіць аналіз, што склалася ў Вярхоўным Савеце БССР, і як сябе паводзіць у такой абстаноўцы.

Стан Вярхоўнага Савета палітычна не адпавядае становішчу грамадства, і т.Сакалову цудоўна вядома па тых сацыяльных дасьледваньнях, якія былі прадстаўлены, што партапарат у грамадстве падтрымвае ад 3 да 7 працэнтаў, у Вярхоўным Савеце апаратчыкі складаюць большасьць і могуць прыняць любое рашэньне.

Народны фронт у Вярхоўным Савеце мае ня больш І5 чалавек, меншасьць складаюць і дэмакратычныя сілы.

У такой сітуацыі мы павінны стварыць такі Вярхоўны Савет, які быў бы дзеяздольны і мог бы адпавядаць таму становішчу, якое склалася ў грамадстве.

Для гэтага ні зь левага, ні з правага боку абраны Старшыня Вярхоўнага Савета не збалансуе суадносіны сіл. Патрэбны быў такі Старшыня, які ўзяў бы курс на згоду - і трэба сказаць,што дэпутаты ад Народнага Фронта зразумелі гэта.

І4 мая "Дэмакратычная Плятформа" была практычна распушчана і створаны Дэмакратычны Клюб з задачай скансалідаваць усе дэмакратычныя сілы ў Вярхоўным Савеце, у тым ліку сілы партапарата, калі яны радыкальна думаюць. Менавіта ад гэтай ініцыятывы былі выстаўлены незалежныя кандыдаты - Кавалёнак і Шушкевіч.

Вы ўчора чулі іх прамовы. Гэта згодніцкія праграмы - і па пытаньнях суверэнітэта, і па пытаньнях адносінаў да партыі, і нават па адносінах да Чарнобыля, што прагучала ў выступленьні тав.Кавалёнка, які засьведчыў, што дзеля згоды ў нашым грамадстве, дзеля кансалідацыі сіл у Вярхоўным Савеце, каб мы былі дзеяздольнымі - ён, калі стане Старшынёй, ня будзе ўспамінаць вінаватых у чарнобыльскай трагедыі, таму што шмат хто зь іх сядзіць у гэтай залі. Гэта вырашыць толькі народ, і Кавалёнак узяў на сябе адказнасьць дзеля таго, каб кансаладавацца і наша грамадства не прывесьці да расколу...

І вы адхілілі гэтых дэпутатаў! Гэта быў адзіны варыянт, калі мы маглі працаваць плённа...

Што мы маем цяпер? Праводзіны дэпутата ад партапарата - гэта практычны захоп улады, тым больш, што гэта адбылося фактычна з парушэньнем Канстытуцыі, аб чым было засьведчана дэпутатамі-юрыстамі.

Што мы атрымалі? Учора вечарам мы атрымалі тысячы людзей, якія спальвалі білеты перад помнікам Леніна.Гэта вылілася стыхійна - я быў гэтаму сьведкай...Калі ў Менску такое было?!

Далей. Мы можам не спыніць тое, што зараз адбываецца ў Менску,таму што ў сакратарыят ракою напłывалі заявы ад працоўных калектываў і партыйных арганізацыяў, у якіх выказваецца нязго-

да на вылучэньне кандыдата Дземянцея. Калі такое было?! Няўжо прадстаўнікі Кампартыі не адчулі таго напружаньня, якое сьпее і знутры вашай партыі, і знутры ўсяго грамадства?!

Няўжо элементарна ня можна было зразумець, як зьняць напружаньне ў грамадстве?! І вось вынік: цяпер могуць пачацца забастоўкі ў Гомелі, забастоўкі ў Менску, таму што рабочыя з "Гранату", з "Гарызонту", тысячы рабочых, на якіх вы стараецеся абапірацца,-а іх лісты вы ўчора нават не зачыталі,-сьведчаць аб тым...І на плошчу Леніна могуць прыйсьці не 3 тыс. чалавек, а 300 тыс.-і як вы будзеце, тав.Сакалоў!-разганяць іх танкамі?! А вы ўпэўненыя, што танкі пойдуць за вамі?!

Таму я павінен сказаць, што тая сітуацыя, якая склалася ў грамадстве... шум на залі ...у тым вінаватая ў першую чаргу камуністычная група Вярхоўнага Савета! Народны Фронт увесь час імкнуўся ісьці на кансалідацыю. Тут склалася такая магчымасьць - і калі засядала камуністычная група, мы, беспартыйныя, прыйшлі, каб разам абмеркаваць, як нам дзейнічаць, і каб выказаць тыя прапановы, пра якія я гавару зараз...

Нас сустрэла ахова - і нас, дэпутатаў, не пусьцілі. Гэта дыскрымінацыя дэпутатаў...

Дык якая ж гэта "кансалідацыя"?! Хто будзе несьці адказнасьць за той палітычны крызіс, які вы стварылі?

Чаму ніхто з вас не выйшаў да гэтых людзей? І другое пытаньне: як можна не заўважаць у Вярхоўным Савеце дэмакратычных дэпутатаў, якія маюць трэцюю частку галасоў?

Без уліку гэтага Вярхоўны Савет будзе не дзеяздольны, таму я прапаную: не праводзіць сягоньня паседжаньне сэсіі...

Прапаную правесьці яго у панядзелак, праз дзень, і паставіць пытаньне аб перагдядзе выніку выбараў старшыні Вярхоўнага Савета і аб назначэньні новых выбараў, тым больш, што тыя выбары адбыліся на неканстытуцыйнай аснове.

Тым самым мы падцьвердзім сваю адказнасьць за лёс народа, тым самым мы можам паяднаць Вярхоўны Савет і ўсё грамадства, зьняць цяперашнюю напружанасьць.

Тая канфрантацыя, да якой імкнецца камуністычная група, ні да чаго добрага не прывядзе ў Вярхоўным Савеце, таму я прашу вас прыслухацца да маіх слоў і сягоньня пасьля паседжаньня я прашу вас асабіста, Ахрэм Аўсеевіч, вас, тав.Камай, вас, тав.Арцыменя, вас, тав.Краўчанка, а і ўсіх дэпутатаў камуністычнай групы выйсьці на плошчу пагаварыць зь людзьмі!

Вы езьдзілі ў Гомель і не зрабілі з гэтага ніякіх высноў, а высновы трэба было зрабіць. І вельмі шкада, што ў нас утварыўся не дзеездольны Вярхоўны Савет... крык на залі:"Время прошло!"...в а ш е время прошло, не моё время - а ваше.

---

Пасьля прамовы З.Пазьняка "старшыня" М.Дземянцей быў вымушаны абвясьціць перапынак. Паколькі за С.Шушкевіча ў першы дзень галасавала 118 дэпутатаў, болей аднае трэці, і сэсія магла быць сарваная, апарат ЦК КПБ быў вымушаны зьмяніць "сцэнарый".

М.Дземянцей зьняў сваю ж прапанову аб абраньні сваім намесьнікам І.Машко, другога сакратара Гродзенскага абкама КПБ, і с а м прапанаваў ...С.Шушкевіча.

Пераважнай большасьцю галасоў С.Шушкевіч, прафесар, прарэктар па навуцы Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту, абіраецца першым намесьнікам Старшыні Вярхоўнага Савета БССР.

Запіс па дыктафону. Менск. 19 мая 1990 года.

# ЛІТВА І ЯЕ МЕЖЫ

Паглядзіце на мапу справа.Вось яна - Літва.Тая самая,што аддзяляецца.Ды яшчэ паводле Ураду БССР "прыхапіла з сабой" беларускія землі.Таму наш "патрыятычны" Урад,які ня ведае,між іншым,нават беларускае мовы,запатрабаваў,каб Вільня і віленскі край былі перададзены БССР,калі...Літва аддзяляецца.

А калі не аддзяляецца,тады ўсё законна - і Вільнюс належыць да літоўцаў,дакладней, да "савецкіх літоўцаў".

Калі ж БНФ і "Саюдзіс" прынялі супольную заяву з шанаваньнем існуючых межаў і ўзнаньнем інтарэсаў беларускага насельніцтва на Віленшчыне,а літоўскага на Гарадзеншчыне і асудзілі дзеяньні ўрадаў СССР і БССР як правакацыйныя,пачаўся новы крык "як жа?!аддаваць сваё?!".

Вось і паглядзім,што такое сваё - з пункту гледжаньня ЦК КПБ і камуністычных палітыкаў.

Літоўская Рэспубліка абвясьціла незалежнасьць 16 лютага 1918 года - ва ўмовах нямецкае акупацыі.Беларуская Рэспубліка абвясьціла сваю незалежнасьць 25 сакавіка 1918 года - ва ўмовах нямецкае акупацыі.Той і той урад канфліктавалі і з бальшавікамі і зь немцамі.На Літву і на Беларусь наступалі пазьней польскія і савецкія войскі.Геаграфічнае палажэньне Літвы было больш выгодным - "рука Масквы" у той час да яе не дацягнулася.Залежала на Літве і Ю.Пілсудскаму,"начэльны вудз" хацеў захаваць нейтралітэт хаця ж на адным участку фронту:таму што Беларусь у агні,Шлёнск у агні і Львоў у агні...

Літоўцам тады пашанцавала больш.Урад "Тарыбы",-між іншым, таксама "савет",але бальшавікі дзялілі тады літоўцаў на "савецкіх",гэта значыць,сваіх ї ..."тарыбаўскіх"!-здолеў застацца пры ўладзе і маючы пад рукой тысячы "латыскіх стралкоў" з былой царскай арміі,але літоўскае нацыянальнасьці,сфармаваць армію Літвы амаль у 100 тыс.чалавек.На той час гэта была сіла, а з сілай лічыліся.Лічыўся,як разумны чалавек,і У.І.Ленін...

Лета 1920 года.Вайна з Польшчай пагражае перарасьці ў вайну з усёй Эўропай - з аднаго боку,спакуса,але з другога рызыка. Пасьля спрэчак з удзелам Л.Д.Троцкага прымаецца рашэньне:паколькі "зьвязвацца" з прыбалтыцкімі народамі азначае апроч мільённае польскае арміі ўбачыць перад сабой 250-300 тыс.эстонцаў,латышоў і літоўцаў,а за імі саюзныя флёты,а вайна з Польшчай ужо ідзе і пагражае стратай Беларусі і часткі Украіны, перанесьці ўвесь удар на Ю.Пілсудскага.Аднachасова ўрэгуляваць справы з суседзямі Польшчы.

Савецкая дыпляматыя дэманструе цуды ў пашуківаньню кантактаў з урадамі Германіі,Літвы,Латвіі."Прапановы не да адмаўленьня". Гарантыі і абяцаньні.Прызнаньне і незалежнасьць.

12 ліпеня 1920 года падпісваецца ўклад паміж РСФСР і Літвой,з савецкага боку - У.Ленін і Г.Чычэрын.Вышэйшы ўзровень. Па гэтаму ўкладу ўзнаная праз РСФСР мяжа Літвы з поўдня праведзеная па-вайсковаму проста...па р.Нёман і далей па мяжы паміж былымі Мінскай і Віленскай Губэрнямі.

Кіраўніцтва РСФСР задаволенае:па-першае,Літва выключаная з гульні,па-другое,над Польшчай зь яе прэтэнзіямі на Вільню цяпер пры кожным выпадку з поўначы будзе звісаць літоўскі кулак у 100 тыс. штыкоў.




УМОЎНЫЯ ЗНАКІ:

- межы Літоўскае Рэспублікі ў I9I8-40 гг. ;
- тэрыторыя Клайпедскага краю, далучанага да Літвы ў I922 годзе рашэньнем Лігі Нацый на этнаграфічнай падставе і анэксаванага гітлераўскай Германіяй ў I939 годзе ;
- межы Літоўскае Рэспублікі паводле мірнага ўкладу паміж Літвой і ленінскім урадам РСФСР I920 году ;
- межы Літоўскае ССР з I945-га па I990 год і межы Літоўскае Рэспублікі з I990 году.

Беларусы? Якія беларусы? Так,I студзеня I990 году была абвешчаная і савецкая Беларусь,але праз два месяцы яе тэрыторыю скарацілі да ... цяперашняй Мінскай вобласьці,а кіраўніцтва зьмянілі.Потым існаваньне ССРБ было ... прыпыненае.На вуліцы год I920-ты.У Беларусі кіруе Заходні Фронт і камісія Ф.Дзяржынскага і Ф.Кона,начфронта М.Тухачэўскі падпісаў загад:"На Варшаву! На Берлін!".Камунізм зараз будзе,а вы тут са сваёй Беларусьсю...

Дарэчы,ад укладу I2.7.I920г. савецкі ўрад не адмаўляўся і потым,пра што сьведчаць Пакт аб ненападзе ад 22.9.I926г. ды яго пралянгацыі 6.5.I93Iг. і 3.4.I934г.

Больш таго,СССР лічыў,што Польшча не мае на Вільню ніякіх

правоў і выступаў у тыя часы "другом литовского народа",напрыклад,Масква "с пониманием" ставілася да таго,што Ўрад Літвы лічыў Коўна не сталіцай,а толькі месцам свайго часовага пабыту, сталіцай жа ў літоўцаў лічылася Вільня,часова,на іх думку,акупаваная праз палякаў у выніку рэйду генерала Жэлігоўскага.

Калі дайшло да змовы Сталіна і Гітлера,больш вядомай чамусьці як пакт Молатава-Рыбэнтропа,то дэмаркацыя паміж Германіяй і СССР першапачаткова йшла па лініі "паўночная мяжа Літвы-Нараў-Вісла-Сан".Гэта значыць,што Літву меркавалася перадаць Германіі,а паколькі СССР узнаваў за Літвой межы 1920г.,-па Леніну!-то зразумела,чаму Вільня і Віленскі край былі пасьля разгрому Польшчы перададзеныя Літве:Сталін выконваў абавязкі паводле "Пакту аб ненападзе".

Аднак пазьней Іосіф Вісарыёнавіч перадумаў.Ён запрапанаваў Гітлеру памяняцца адваяванай тэрыторыяй:да Германіі адыйшлі два польскія ваяводствы - правабярэжная частка Варшаўскага і Люблінскае,а да СССР Літва.

Гэта было замацавана адпаведным пагадненьнем паміж СССР і Літвой,а позьняй восеньню 1939 года літоўская армія заняла Вільню,зь якой напярэдадні адступіла Чырвоная Армія.

Акупацыя балтыцкіх рэспублікаў летам 1940 года дастаткова падрабязна апісаная як у заходняй ці літоўскай,так і ў савецкай прэсе;найбольш важкі аргумент,што гэта была менавіта акупацыя, а не рэвалюцыя,як заўсёды,паходзіць ад ваенных:Прыбалтыцкая вайсковая акруга была ўтвораная загадам наркама абароны СССР на месяц раней,чым ...адбыліся народныя рэвалюцыі ў Літве,Латвіі і Эстоніі - унікальная ў гісторыі зьява,калі адна сувэрэнная дзяржава ўключае ў сваю вайсковую акругу тэрыторыю суседніх сувэрэнных дзяржаваў.

Што датычыцца Клайпеды,дык да Літвы яна была далучаная рашэньнем Лігі Нацый у 1922 годзе,а вясной 1939 года там высадзіўся нямецкі дэсант - толькі пасьля гэтага ў клайпэдскім краю правялі рэфэрэндум,па выніках якога Літва была вымушаная згадзіцца на патрабаваньні Гітлера і аддаць Клайпеду.

Такім чынам,ні урад СССР,ні Урад БССР,якія лічаць сябе правапрыймальнікамі "дела Ленина",а значыць,узнаюць і літоўскую мяжу па Нёману,ня могуць мець да Літвы ніякіх тэрытарыяльных патрабаваньняў.

Мяжа на гэтых землях перасоўвалася шмат разоў.Калі паглядзець на карту,лёгка заўважыць,што раён верхняга Нёмана і Віліі па ўкладу РСФСР-Літва адыходзіў цалкам Літве,а па выніках вайны 1919-20гг. апынуўся ў Польшчы.Толькі пасьля 1944-га года была праведзеная мяжа п р ы б л і з н а пасярэдзіне Віленскага краю,але нават пры гэтым у Літве апынулася 300 тыс. беларусаў і палякаў,а на Беларусі 50 тыс. літоўцаў.

Пра тое,як жывуць гэтыя людзі,ці ёсьць у іх нацыянальныя школы і культурныя асяродкі,ці патрэбная ім рэальная дапамога і ці не досыць зь іх "патрыятычнае" абароны ў выглядзе пустых і нікчэмных заяваў,да вясны 1990 года урад БССР не пытаў.

Але што чакаць ад Дземянцея і Сакалова апроч выкананьняў усяго,чаго Масква захоча...Тут дзіва няма.

Зьдзіўляе толькі,ці вырачацца тав.Сакалоў свайго "сьвятога" Уладзіміра Ільліча і яго нёманскую мяжу Літвы,калі раптам выцягнуць тыя мапы з 1920 года і пхнуць нам пад нос...

Але пакуль што Літва ніякіх надуманых тэрытарыяльных патрабаваньняў да Беларусі не выказвала.Нашыя суседзі - людзі парадачныя.Ім сорамна выглядаць сьмешна.

На жаль,да свае гульні ў "літоўскую пагрозу" камуністычныя палітыкі зацягваюць нават ... ахвяраў Чарнобыля.Апошнім часам па Менску кружляюць чуткі,што перасяленцам з Хойнікам,Нароўлі, Краснапольля ўжо абяцаныя кватэры пад Вільняй - "на новай зямліцы".Іначай адсяліць,бачыце,"нет возможности"...

Хаця ж плаціць МінэнергаСССР народныя складкі на ліквідацыю катастрофы,а самім адбываць марскія круізы на валюту,сабраную беларускай эміграцыяй для хворых дзяцей,у камуністычных "беларускіх" чыноўнікаў магчымасьць ёсьць.

В.Барысаў

# LAISVĖ

Шляхі зьбягаюцца ў Вільню.
 Ня будзем дзяліцца болем.
Пешкі ў Вострую Браму
 пойдзем да сьвят.
На ўсходках Вострае Брамы
 стаіць на каленях Воля
прад Абразом Цудатворным -
 ня змог яе кат.

Усходзяць чорныя хмары.
 Белая Русь у пыле.
Сьмяротны чарнобыльскі цмок
 усюды лятаў...
Белая Русь у магіле.
 Літва заснула ў магіле.
Паўвеку спала ў магіле.
 Ускрэсла Літва...

На вуліцах і пляцах Воля.
 О, несьмяротная Вільня!
Вораг і Янка-дурань
 за плотам точаць лязо.
Па горле чужой касою
 цябе сьцебануць ім пільна.
Узброена Воля ў Вільні
 дзявочай касой.

Данута Бічэль-Загнетава

# КОММЮНИКЕ ПРАВИТЕЛЬСТВА ЛИТВЫ ОБ ЭКОНОМИЧЕСКОМ ПОЛОЖЕНИИ РЕСПУБЛИКИ

НА 7 МАЯ 1990 ГОДА, ПОНЕДЕЛЬНИК
„ЛЕТУВОС РИТАС"

На девятнадцатые сутки экономической блокады в Литве поставки энергетических ресурсов не изменились. Товары населению из СССР в выходные дни поставлялись нормально - их получено на 4,6 миллиона рублей.

В апреле СССР по централизованным договорам Литве не поставил: Бумаги - около 25 процентов, чёрных металлов - 50 процентов, поставки древесины, полистирола и полиэтилена почти полностью остановлены.

Руководители Министерства сельского хозяйства, установившие контакты с должностными лицами соответствующих ведомств СССР, информировали о том, что поставки фуражного зерна и белковых добавок из СССР в Литву на старых условиях в принципе возможны и в будущем. Правительственная комиссия по регулированию экономического положения, рассмотрев создавшуюся ситуацию в пределах своих полномочий, решила обратиться в Государственную противоблокадную комиссию, которая могла бы принять существенные решения.

В развитии и углублении непосредственных связей с изготовителями в СССР сделан шаг вперёд по установлению контактов с партнёрами в соседней Белоруссии. Координировать взаимный обмен решено на правительственном уровне.

Министерства экономики и энергетики внесли предложения о возможности приобретения и продажи бензина по коммерческим ценам. Окончательное решение по этому вопросу будет принято Государственной противоблокадной комиссией. С учётом поступающих сигналов о следующих транзитом через Литву нефтепродуктах в неисправных цистернах правительственная комиссия дала указание ужесточить контроль за экологическим и противопожарным состоянием этого транспортного средства.

Литовское Правительство считает необходимым ускорить развитие направлений перестройки хозяйства Республики, выявившихся во время блокады. Для этого нужно как можно быстрее вместе с парламентом определить приоритеты и основные пути развития хозяйства независимой Литвы.

---

# ДУКАТ — ШЛЯХ ДА СВАБОДЫ

Тыя трыццаць срэбнікаў
юдавай свабоды
мы заменім хай адным
вольнасьці дукатам!
С.Сокалаў-Воюш

Два гады назад ідыялягічныя супрацоўнікі райкамаў КПБ страшылі калгасьнікаў тым, што "нефармалы" і "экстрэмісты" з БНФ хочуць завесьці свае беларускія грошы. Людзі жахаліся - як жа ж так, рабіць ня хочуць, а грошы будуць мець?!

У тыя ж часы і шматлікія эканамісты выступалі супроць эканамічнай самастойнасьці Беларусі, спасылаючыся на тое, што без натуральных рэсурсаў рэспубліка доўга не працягне і што прадпрыемства не атрымае нічога, калі "диктатура Москвы будет заменена диктатурой Минска".

Запалохвалі таксама і дэфіцытам усяго, што можа быць і чаго быць ня можа, калі Беларусь выйдзе са складу СССР. Былі, наадварот, вялікія спадзяваньні на рэформу ўсяе "общесоюзной" гаспадаркі, на Мікалая Іванавіча, на Міхаіла Сяргеевіча...

На справе атрымалася крыху іначай. Бясконцыя паседжаньні Вярхоўнага Савета СССР скончыліся нічым, урад М.Рыжкова ня здолеў адмовіцца ад каманднага стылю, усе яго пастановы і рашэньні не стваралі новы парадак эканамічных адносінаў, але заблытвалі і ламалі старую сістэму забесьпячэньня, у выніку чаго парушыўся рытм працы практычна ўсяе гаспадаркі, а "выкручвацца" самастойна прадпрыемствы таксама не маглі, не парушаючы шматлікіх інструкцыяў і нават "законаў".

Так папулярныя цяпер "прамыя сувязі" азначаюць, што прадпрыемствы фактычна вымушаныя махнуць рукой на цэнтралізаваную апеку і заняцца самаратаваньнем л ю б ы м і сродкамі, толькі звонку,- для міністэрства і пракуратуры!- захоўваючы выгляд планавае дысцыпліны і планавага забесьпячэньня.

На справе ў СССР ужо існуе рынак - ч о р н ы рынак.

Пры ўсіх пакутах трэба захоўваць, аднак, і разуменьне таго, што быць інакш ня можа. Рынак можна ўрэгулёўваць, але немагчыма ствараць па плану - рэгуляваньню ж паддаецца толькі нешта, што ўзьнікла стыхійна, само сабою, з практычных патрэбаў. Дык што і як павінна рэгуляваць дзяржава?

Самае дрэннае на чорным рынку - цэны. Заблытанась прывяла да таго, што цьвік часам даражэй за інсрумент, а дошкі даражэй мэблі. Цэны ўстанаўляюцца часьцей за ўсё стыхійна, або ў натуральным значэньні: два ровары = самазвал. Сапраўдная вартасьць рубля ўжо даўно значна ніжэй за намінальную.

У такіх умовах той, хто працуе лепш, зарабляе горш, паколькі не мае аніякай магчымасьці абароны вынікаў свае працы - заробленае ў рублях імгненна абясцэньваецца. Спадзяваньні на заробак валюты таксама хутчэй за ўсё чыста эмацыянальныя: па-першае, той жа ўрад М.Рыжкова пакідае прадпрыемству ... 15-20 працэнтаў усяго зыску, і гэта лічыцца ільготай! Па-другое, ёсьць і аб"ектыўныя цяжкасьці з пашуківаньнем валютнага рынку: нізкая якасьць, дрэннае веданьне міжнародных сувязаў і ўзаемадачыненьняў,няўстойлівасьць самога прадпрыемства і г.д.

Пры больш уважлівым вывучэньні знутранага рынку, можна заўважыць, што па так званых "рэгіёнах" сітуацыя да нядаўняга часу,- пры больш-менш моцным рублі!- была зусім розная і, самае дзіўнае, адлюстроўвала вынікі працы рэальным узроўнем жыцьця, а вось нівеліраваньне пачалося як раз з развалам планавай гаспадаркі, але ні ў якім разе ня ў сувязі з палітычнымі падзеямі. "Блакадная" Літва наўрад ці жыве горш за паслухмяную Беларусь. Што датычыцца крыку "нас абіраюць!", то нават калі зьменшыць у СССР так званыя "натуральныя пастаўкі", прыдзецца зьменшыць адпаведныя натуральныя закупы: ліквідуючы дэфіцыт мяса, можна хварэць на дэфіцыт паліва і г.д.

"І што ж тут новага?"-спытае чытач.Так, прыхільнікі цэнтралізацыі таксама сьцьвярджаюць, што паадзіноце рэспублікі загінуць, але "цэнтралісты" не жадаюць слухаць пра тое, што выдайнасьць працы на аднаго чалавека ў розных рэгіёнах адрозьніваецца ледзь не ў дзесяткі разоў!

З Беларусі вывозяць не мяса і не масла - вывозяць працу.

Спробы пераглед зець цэны ў прамысловасьці або сельскай гаспадарцы ці дыфэрэнцыяцыя цэнаў па рэгіёнах ня можа праводзіцца цэнтралізавана, таму што на справе гэта звычайнае падвышэньне цэнаў і пераразьмеркаваньне зыскаў паміж а г у л ь н а с а ю з н ы м і міністэрствамі,але не паміж рэгіёнамі.

Рэспубліку абароніць не свае цэны і не продаж па пашпартах,але свая нацыянальная валюта. Наяўнасьць такой валюты нам сягоньня выгодна па трох прычынах: па-першае, пры параўнальна моцнай сельскай гаспадарцы ў нас прамысловасьць у асноўным працаёмістая - вываз будзе пераўвышаць увоз,а розьніца заставацца ў Беларусі, па-другое,застрашваньне энергетычнай залежнасьцю ад СССР споўніцца ... пры адсутнасьці свае валюты,паколькі рана ці позна за электраносьбіты Масква патрабуе валюту і са "сваіх"-а дзе ж браць даляры інакшай?-так што лепш плаціць сваёй валютай, чым набываць чужую, па-трэцяе, узровень выдайнасьці працы зьяўляецца ня толькі эканамічным, але і нацыянальным крытэрыям,чымсьці больш сталым,як нам звычайна здаецца,вышэйшы узровень выдайнасьці,чым у самай вялікай рэспубліцы - РСФСР,гарантуе нам вышэйшы курс беларускага дуката адносна расейскага рубля, коштам чаго будзе фактычна палепшаны ўзровень жыцьця ў Беларусі, паколькі мы лягчэй пераняcем надыходзячы крызіс, чым Расейская Фэдэрацыя.

Сягоньня справа "пра беларускія грошы" высьлізнулася з-пад райкамаў КПБ - пра дукаты паведамляла нават "Звязда", пра тое ж памінаў, не падаючы назвы, і прэм"ер В.Кебіч у апошнім выядзе. Засталося пераадолець апошнюю перашкоду - псіхалягічны бар"ер.

Як гэта можа выглядаць практычна? Паводле папярэдніх падлікаў адзін дукат можа быць вымяняльны на два рублі - гэта пры той умове,калі заробак у "новых" дукатах будзе фармальна роўны заробку ў старых" рублях , 150 рублёў=150 дукатаў.

Праўда,заробак павялічыцца на справе ня ў два разы, але менш, паколькі дзеля ўмацаваньня дуката трэба будзе ўзьняць цэны працэнтаў на 15-20.

З другога боку, ад менскіх сьпекулянтаў вядома, што калі курс да рубля ўстанаўлнецца ўдвая, то на справе праз паўны час за дукат могуць плаціць не два рублі,але тры с паловай-чатыры...

Здаецца,гэта лепш,чым цяпер.

Чакаем дукатаў!!!

Ігар Філімонаў

# ВОСЬ РАЗЫДУЦЦА ХМАРЫ...

Хтось ад страху канаў,
хтосьці так існаваў,
хтосьці гінуў...
Хтосьці нёс праз рэпрэсіі
праўды сьвятло!
Хтосьці ў смак гандляваў
шматпакутнай радзімай краінай -
не сваёй, а маёй,
бо сваёй у яго ня было!

Ён згубіў яе там,
дзе магілы бязьвінных паўсталі
дзеля сытых сталоў,
дзеля новых чыноў і пасад,
дзе пасеяў віну і бяспамяцтва
вылюдак Сталін,
дзе два крокі наперад
былі як чатыры назад...

Я зьнявечаных брат,
сын забітых і брат скатаваных.
Я гітару сваю,
як мішэнь, пад прыцэлам нашу;
нашы душы ў агні,
нашы душы ў аднолькавых ранах -
на алтар Беларусі
прыносім мы нашу душу!



Тут сьмяротныя - ўсе!
Я таксама памерці баюся -
не аддаўшы сябе,
да канца не згарэўшы ярчэй...
Вось разыдуцца хмары
хоць крыху над Белаю Русьсю -
і тады ўжо нічога,
тады і загінуць лягчэй...

Можа, рана пра сьмерць?
Можа, я дзеля сьмерці - зялёны?!...
Толькі вучыць мінулае
тых, хто туды зазірнуў:
аднагодкаў маіх
не дзесяткі, не сотні - мільёны! -
дол халодны забраў назаўжды
і імён не вярнуў.

Хтось ад страху сканаў,
хтосьці так існаваў,
хтосьці гінуў...
Хтосьці нёс праз рэпрэсіі
праўды сьвятло!
Хтосьці ў смак гандляваў
шматпакутнай радзімай краінай -
не сваёй, а маёй,
бо сваёй у яго не было!

С.Сокалаў-Воюш

# ІНФАРМАЦЫЯ

◆ГОСУДАРСТВЕННАЯ ПУБЛИЧНАЯ БИБЛИОТЕКА
имени М.Е.САЛТЫКОВА-ЩЕДРИНА

как государственное хранилище с целью сохранения культурного наследия собирает с 1810 года все виды изданий, выходящих на территории страны.

Библиотека обращается к независимым издателям с просьбой высылать по два экземпляра каждого выходящего издания по адресу:

191069 Ленинград, ул.Садовая, 18.ГПБ, Отдел комплектования.

◆Віленская газэта "Летувос Ритас" штомесяц зьмяшчае беларускую старонку "ПАГОНЯ", якая рыхтуецца праз Таварыства Беларускай культуры ў Літве "Сябрына".

Другая праграма Літоўскага Радыё раз на два тыдні па суботах а гадзіне 12.30 на хвалі 271 м надае праграму на беларускай мове, якая рыхтуецца праз Таварыства Беларускай культуры ў Літве "Сябрына".

◆СОЮЗ СОЦИАЛЬНОЙ ЗАЩИТЫ ВОЕННОСЛУЖАЩИХ
И ЧЛЕНОВ ИХ СЕМЕЙ "ЩИТ"

125190 Москва, а/я 39, Союз "Щит".
Телефакс 2999576.
Телефоны для связи: 133-68-93,
362-58-14,
362-22-24.

СЛУЖБА "ВОЕНЮРИСТ": Москва, ул.Авиамоторная, 12, ком.107.
тел.362-22-24.
С 11 до 16 часов ежедневно
кроме субботы и воскресенья.

◆Газэта Івейскае Рады БНФ "Адраджэньне" "Івейская крыніца" зьмясьціла паведамленьне, што 25 сакавіка ўтвораны аргкамітэт Хрысьціянска-Дэмакратычнага Саюзу ў складзе 5 асоб. Статут і Праграма ХДС будуць надрукаваныя ў "Івейскай крыніцы", устаноўчы зьезд партыі мяркуецца правесьці восеньню гэтага года.

За даведкамі зьвяртацца:
2-11-38, м.Іўе Ігар Карпікаў з 18.00 па 22.00.
2-67-49, м.Іўе Лявон Келдановіч з 18.00 па 22.00.

РЭДАКЦЫЯ
"Беларуская Кроніка". Незалежная грамадска-палітычная газэта.
Погляды аўтараў не абавязкова адпавядаюць поглядам рэдакцыі.
Друкуецца на арэндаванай тэхнічнай базе. Наклад 1000 экз.
=ЦАНА 40 КАП.=